№ 66. 29 верэсьня 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).



# ГОМАН



## 3.000 палонных расейцоу.

### 28 верэсьня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Між Анкр і Соммай французы і англічане, пасьля падгатоўкі агнём, сільнейшым, чым быў калі-будзь, нанова пайшлі у атаку. На большай часьці баевога фронту наша стойкая пяхота, добра паддзержаная артылерыей і лятунамі, пабедна адоіла ворагоў. Пры Тіепваль і на ўсходзі ад Окур—Лябэ вострая бітва ешчэ не закончэна. Асабліва сільные штурмы былі на лініі Морваль — Вушавэн, каторые ворагі, ня гледзячы на страты пры першым адбітым штурме, вёў ізноў у вечары.

Уварваўшыеся атрады ўраз жэ былі выкінуты з нашых ліній. На невялікіх частках нашых ліній на паўночным заходзі ад Ранкур і на ўсходзі ад Бушавень ворагам удалося удзержацца.

Нашы лятуны збілі учора 7 аэрапланоў, с паміж іх 4 — пры Сомме.

У часі ангціцкаго налёту на Брускэлю бомбамі зруйнованы 15 дамоў. Забіты 13 бэльгійцоў, ранены — 28.

**Усходні тэатр:**

Утрачэные намі часьці пазыцій пры Корытніцы, аб каторых успаміналося 22 верэсьня, зусім удачнай контратакай пасьля цяжкіх бітв адваёваны назад, а разам с тым здабыты новые. Усе спробы ворагоў адкінуць нас не ўдаліся. **чацьвёрты сібірскі корпус** меў такіе страты, што яго можна лічыць **зьніштожэным. Узяты 41 афіцэр, 2800 салдатоў, 1 гармата і 17 кулемётоў.**

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: Пры Красналесьсі, між Залатой Ліпай і Нораёўкай, мы пасунулі нашы лініі ўпярод. **Узяты 130 палонных расейцоў і 4 кулемёты.**

У Карпатах наступленьнь ворагоў адбіты, часьцю штыкамі. Пры Кірлі-Бабе контратакі ешчэ развіваюцца.

Пры Гэрманштадці — удачные упорные бітвы.

**Балканскі тэатр:**

Без значных прыпадкоў.

Нашы лятуны ізноў кінулі многа бомб на яшчэ гарэўшый ад апошняго налёту Букарэшт.

---

## З апошніх дзён.

—в—

### Нямецкіе апавешчэньня.

**27.IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Далейшая баталія на Сомме ўчора ізноў вызвала вельмі вострые бітвы артылеры і пяхоты. Выступаўшая вострым клінам часць Тіэпваля намі утрачэна. На-абапол Курсэлет, пасьля чысьленых неудач, ворагі ў канцы адваевалі крыху тэрыторыі. Яны не здалелі выкарыстаць сваей удачы 25.IX, ня лічучы заняцьця вёскі Гэдэкур. Мы крывава, часьцю штыкамі адбілі іх вострые атакі пры Лебэф і на фронці Морваль—Бушавэнь.

---

У бітвах на паветры ўчора і пазаўчора збіты на Сомме 6 аэрапланоў і ў Шампані—1.

**Усходні тэатр:**

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Новые атакі на адрэзку Людовай ізноў скончыліся для расейцоў неудачай пры вялікіх стратах.

*Семіградзкі фронт:* нашае наступленьне пры Гэрманштадці ідзе удачна.

**Балканскі тэатр:**

Ізноў адбыліся налёты лятучых караблёў і аэрапланоў на Букарэшт.

*Фронт Макензэна*: Пры Маймаккалане боўгары атакавалі ворагоў, адкінулі іх і здабылі дзьве гарматы і некольki кулемётоў.

**Сьмерць Вітгенса.**

МІНДЭН. 24 верэсьня ў бітве з значна перэважываючымі ворагамі пагіб Вітгенс. Ен за свой век збіў 15 аэрапланоў ворагоў.

**Новы налёт на Англію.**

ЛОНДОН. У ноч з 25 на 26 верэсьня быў другі налёт нямецкіх лятучых караблёў на Англію. Асыпан бомбамі найбольш ваенны порт Портсмут.

ЛОНДОН. Паводлуг офіцыальных ведамасьцей, у часі двух апошніх налётоў забіты 74 душы, ранены—252.

---

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 27.IX. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: На плоскагорыі Карст часць нашых пазыцій ад часу да часу знаходзіцца пад сільным артылерыйскім і мінным агнём.

---

### Бунт у румынскай арміі.

ШТОКГОЛЬМ. Каля аднаго места на Дунаю румынскіе салдаты, каторые не хацелі ваеваць, зрабілі страшэннае дзело: поезд з афіцэрамі, ехаўшымі на фронт, быў узорван дынамітнаю бомбаю. С 400 афіцэроў нераненымі аказаліся толькі 7. Падазрэваюць, што ў гэтым вінават 2-гі артылерыйскі полк, каторы стаіць у Яссах. Шасьцёра салдатоў, у тым ліку два унтэр-афіцэры, разстрэляны. Пасьля гэтаго ўвесь полк адмовіўся спаўняць прыказы.

---

### Міжнародны работніцкі рух.

**Забастоўка 350.000.**

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). «Times» даведаўся з Нью-Іорку, што работніцкіе саюзы назначылі на сераду забастоўку 350.000 організованых работнікоў.

**Крывавые стычкі ў Португаліі.**

ЖЭНЕВА. У крывавых стычках між народам і войскам у Ліссабоне і Опорто забіты многа людзей. Правіцельство вельмі укрывае падробнасьці.

**Аванс работнікам.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Як мы даведаліся, выйшоў прыказ, каб гасударственым служачым і работнікам былі дадзены грошы авансам на куплю бульбы на зіму.

---

## „Аружны народ“.

Армія—гэта аружны народ. Гэта асабліва ярка выяўляецца нават на фронці—ў тые момэнты, калі сціхаюць бітвы і жыцьцё якбытцым мірна цячэ. Але ешчэ больш губляе свае ваяўнічые рысы войско, каторае апынулося далёка ад баевога фронту—папало ў палон да чужынцоў. Тут аднаўляецца старое будзеннае жыцьцё, і нанова думкі заняты справамі штодзеннымі, як калісьці там—у далёкай бацькаўшчыне. У таборах для ваенна-палонных німа ўжо арміі: там ёсць толькі народ.

Лятуць думкі да роднай зямліцы і ў нашых беларусоў, каторых гэтак многа ў нямецкім палоні. Б'юцца мацней іх сэрцы, як даходзіць да іх вестка аб Бацькаўшчые, даходзіць роднае беларускае слово. І ў чужыне, між людзьмі розных націй—з зусім непадобнымі думкамі, жаданьнямі і ідэаламі, беларус пачынае ясьней разумець, хто ён такі, пачынае уясьняць сабе сваю нацыональную адменнасць ад блізкіх, ды ўсё ж такі чужых народоў.

Даходзяць да іх пэўне і радасные весьці аб тым, што ў роднай зямліцы неўспадзеўкі ўсё пачало адменяцца: што ешчэ ўчора безпраўны, адпісьнуты на апошкі беларускі народ здабывае для сябе належнае яму, як гаспадару свайго Краю, мейсцо; што мова яго чутна ўсюды вольна; што дзеткі беларускіе дастаюць навуку пабеларуску; што мы прызнаны ўрэшці культурным сьветам, як асобная, самабытная нація. І вось, на пытаньне, якога яны роду-племі, міньчукі, як адзін, цьвёрда атказываюць: „мы—беларусы!“ А ў той жэ час да нас усё часьцей прыходзяць пісьмы-аткрыткі ад ваенна-палонных з Віленшчыны і другіх губэрній—с пытаньнямі, што за новы лад настае у Беларусі, с просьбамі аб кніжку, газэту ў роднай мові...

Будзіцца беларускі народ ня толькі па сваіх хатах, да каторых дайшлі „добрые весьці“: будзіцца і „аружны народ“, і с палону нямецкаго па вайне прыбудзе нам многа рабочых рух дзеля вялікай усенароднай працы!

*І. Мелешка.*

## † Александар Ельскі.

Газэты прыносяць нам сумную вестку с таго боку ваеннаго фронту—з Міншчыны: там 27 жніўня памёр у сваім дварэ Замосьці праўдзівы патрыарх беларускаго руху—Александар Ельскі, пражыўшы 82 гады.

У яго асобі зыйшоў у магілу апошні прэдстаўнік таго кірунку, да каторага у сваім часі прыналежаў Марцінкевіч, Топчэўскі, Дыбоўскі, а ешчэ раней—Рыпінскі, Чэчот і іншые. Усе яны—ідэолёгі „шляхоцкаго дэмократызму“, каторы, хоць і на свой асаблівы спосаб, прызнаваў сваю павіннасць працаваць для беларускаго народу, апекавацца „меншымі братамі“, вясьці іх па дарозі цноты і боязьні Божай. У чысьленых выданьнях сваіх, друкаваных па беларуску прозай і вершам, Ельскі за апошніе некольki дзесяткоў гадоў звертаўся да народу з гарачым прызывам пазбыцца благіх наклоннасьцей, асабліваж найгоршаго ворага нашаго — п'янства („Слово аб праклятай гарэлцы“ і інш.). Паучаючы народ у сваіх беларускіх брошурках, ён не зыходзіў с клясоваго становішча, і гэтым быў блізкі Марцінкевічу. Але ў сваей ідэолёгіі заўсёды стараўся апірацца на хрысьціянскай навуцы, і гэта давало яму магчымасць крытычным вокам глядзець на свой уласны стан, каторы Ельскі пазнаў быў лішне добра і даволі цёмнымі фарбамі адмалеваў у сваей „Гісторыі шляхты“. Крытыкуючы, Ельскі рабіў гэта з болем сэрца, і асабліва балела яму душа, гледзючы на тое, як апалячэная шляхта адыходзіць усё далей і далей ад беларускаго селянства, як між ею і нашым народам вырастае што-раз вышэйшы мур, узмацовываецца змаганьне: шчыры хрысьціянін, ён жадаў брацкіх адносін між вёскай і дваром і верыў, што яны могуць запанаваць толькі на грунці зближэньня шляхты да селянства, прамаўляючы да „меншых братоў“ у іх роднай беларускай мове.

Ельскі шчыра кахаў родны край і лічыў, што павіннасць жыхароў нашай зямліцы—працаваць дзеля лепшай долі гэтай апошняй. Ешчэ ў 80-тых і 90-тых гадах ён пісаў аб гэтым у стацьцях, друкаваных у пецярбурскай польскай газэці „Край“.

Сьв. п. Александар Ельскі — гэта быў жывы мост, які злучаў нашу цяперашнюю працу і цяперашні рух с цэлай плеядай даўнейшых працаўнікоў на роднай ніве. Баючыся радыкалізму „маладых“, ён, аднак, разумеў іх і шчыра спагадаў ім, зыходзячыся з імі на ацэнцы сучаснай палітыкі дэнацыоналізованай краёвай інтэлігенціі. Стаўляючы перад усім праўду і справядлівасць, ён ня мог згадзіцца с тым, што гэта інтэлігенція за крошкі навукі забірае ў нашаго народу яго нацыональную душу, забірае яго матчыну мову і гэтак абкрадывае з найдаражэйшых скарбоў. І, ня маючы магчымасьці прылучыць свае

слабеючые сілы да работы „маладых“, ён у пастаяннай перапісцы з імі пасылаў ім свае увагі і рады, прызываючы да асьцярожнасьці, развакслівасьці і хрысьціянскаго мілаваньня нават сваіх ворагоў. Калі-ж для грамадкі беларускіх працаўнікоў у Вільні наступалі цяжкіе момэнты, ён сьпяшыў і з матэр'яльнай помаччу, дaвераючы ім свае зберажоные грошы.

У адным с пісем, пісаным колькі год таму назад, Ельскі выказаў шчыры жаль с прычыны таго, што расейскіе законы не даюць яму споўніць старую яго думку: усе свае грошы памясьціць такім спосабам, каб за іх пасьля яго сьмерці можна было наладзіць карысную для акалічных беларускіх вёсак установу — ратунковы камітэт, бальніцу, ці іншае. Ці ўдалося яму знайсьці на гэта спосаб, нет ведама...

Невядома так сама, ці ўцалеюць яго багатые зборы памятак мінуўшчыны Беларусі, каторые ён хаваў у сваім дварэ і спадзеваўся знайсьці для іх адпаведнае мейсцо у сталіцы Краю—Вільні.

Шчыры сын Зямлі Беларускай, ён ішоў заўсёды простай дарогай, выказываючы аткрыта свае пагляды, сваю любоў да народу беларускаго —і нават найгоршые ворагі беларускаго адраджэньня ня сьмелі кідаць каменьнямі на яго работу, а пасьля сьмерці успамянулі яго добрым словам, як заслужонаго грамадзяніна Краю.

С шчырым жалем дзелімся мы з нашымі чытачамі сумнай весткай аб гэтай новай утраці Беларускаго народу—ня першай у часі страшэннай сусьветнай вайны...

*А. П.*

# У Вільні і ваколіцах.

—

× **Беларуская вучыцельская сэмінарыя у Сьвіслочы.** 15 кастрычніка г. г. у Сьвіслочы, Беластоцкаго округа, аткрываюцца для маладых беларусоў трохмесячные курсы, каторые прыгатаўляюць народных вучыцялёў. Курсісты павінны мець ня менш 18 гадоў і скончыць пачатковую школу або колькі класоў сярэдняй школы. Акуратные ведамасьці можна да 1 кастрычніка атрымаць пры Домініканскай вул. 3, пакой 55.

× **Выпуск народных вучыцялёў.** Беларускіе Вучыцельскіе Курсы ў Вільні скончылі і атрымалі атэстаты 11 курсістоў:

1. Асьцік Сыльвэстар.
2. Кайрэн'ус Оскар.
3. Камінская Станіслава.
4. Корсак Андрэй.
5. Лемеш Вінцук.
6. Місюро Стэфанія.
7. Русакевіч Зузанна.
8. Савіцкая Анна.
9. Стрэльчунас Адэм.
10. Трот Александар.
11. Трот Андрэй.

На развітаньне адзін з маладых вучыцялёў напісаў гэткі верш, звертаючыся да вучыцялёў на Курсах с падзякай у такіх славах:

Мы сабраліся сягоньня, панове,
Каб сьвяткаваць гэты дзень—
Гэты вялікі дзень адраджэньня
Роднай навукі сваей.
Дзякуй Вам, дзякуй, Панове!
Дзякуй ад імі усіх нас
За Вашэ змаганьне за мову, за школы,
За наш Беларускі Народ!
Вы нас вучылі; рупілісь
Зрабіць з нас вучоных людзей.
Знойдзеце ў нас вы падмогу
У дзеле прасьветы братоў.
К яснаму сонцу — с цьмы, з безпрасьвецьця,
К славе—з безлаўя брацьцям усім
Гэткай шукаем мы сьцежкі на сьвеці,
Гэткаму дзелу душу аддадзім.
За лепшую долю роднаго Краю.
За сваіх брацьцяў у сьвятой барацьбе—
Гэткай дарогі толькі шукаем,
Памяткі гэткай шукаем сабе.

А на гэта, так сама вершам, атказаў маладым таварышам дырэктар курсоў, Б. Почобко:

Да працы на бацькавай ніве
Ідзіце, панове, шчасьліве.
З гарачай ахвотай у грудзі
Нясіце прасьвету на людзі,
Нялёгка вас праца чакае:
Як кожны, хто скалы ламае,
Ня раз вы спацееце ў трудзе,
І кінуць ахвота брацьь будзе.
Аднак-жэ, успомніўшы тое,
Што праца ёсць дзела сьвятое,
Вы зноў сабярэце ўсе сілы·
Пахаць, засеваць загон мілы.
І дасць ён харошую ўроду:
Убачыце сьветласць Народу!
Пазнае ён, чым быў ад веку,
І стане з людзьмі—Чэлавекам.
Дык з жарам наперад ідзіце,
Сьвятую работу рабіце,
Змагайце усе перашкоды,—
А Бог вам пажожэ заўсёды.

Развітаньне з дырэктарам было удвайне: п. Почобко пакідае гэтымі днямі Вільню і едзе ў ладжэную у Сьвіслочы, Гродзенскай губэрні, беларускую вучыцельскую сэмінарыю.

× **У Беларускім Т-ве п. п. ад в.** Беларускае т-во пом. пац. ад вайны атрымало падмогі ў верасьні:

| | |
|---|---|
| з Генэральнаго Камітэту ў Вэвэй (у Швайцарыі) | •1498 м. 50 ф. |
| з местоваго упраўленьня м. Вільні | 300 » — » |
| на утрыманьне беларускіх школ у Вільні ад Д. Семашкі | 9 » 50 » |
| Разам | 1808 м. 00 ф. |

Апрыч страды, каторая даецца бедным дзецям беларускім—вучням беларускіх школ, Таварыство, с прычыны набліжаючайся восені, асыгнавало часць атрыманых грошы на абутак дзяцей. Боцікі закуплены ў Местовым Кураторыум над беднымі.

Вельмі патрэбна цёплая адзежа і бялізна для бедных школьнікоў.

× **Беларуская вечарынка.** З набліжэньнем восені з яе халоднымі і доўгімі вечэрамі жыцьцё у Беларускім Клюбе значна ажыўляецца. Збіраюцца нанова і сілы беларускаго музыкальна-драматычнаго Кружка, першае выступлень не каторых было два тыдні таму назад. На вечарынцы, каторая ладзіцца ў гэту нядзелю павялічываецца і число нумэроў: да сьпеву, дэклямацыі і фортэп'яннай ігры далучаецца хор, ігра на скрыпцы і інш. Пасьля ўсяго—танцы.

Пачатак а 5 гадз. Члены Клюбу і Кружка за ўход ня плацяць, госьці плацяць звычайную ўходную плату 50 фэн.

× **Работніцкі Клюб** ладзіць у нядзелю, 1 кастрычніка вокальна-драматычны вечэр на карысць II работніцкай страўні, каторы быў назначэн на тую нядзелю.

× **Работніцкая бібліотэка.** У суботу, 30 верэсьня, а 7 гадз. вечэрам аткрываецца бібліотэка пры работніцкім клюбе (Вароньня 5). У бібліотэцы ёсць кніжкі ў розных краёвых мовах. Кніг даволі многа.

× **Падумайце аб зблудзіўшых дзеўчатах!** Мы ўжо не раз пісалі ў „Гомане“ аб патрэбе моральнай апекі над зблудзіўшымі дзеўчатамі, каторых лечаць у бальніцах для вэнэрычных хвароб. Пэўне мала дагэтуль зроблена ў гэтым кірунку, калі тые нешчасные ахвяры часта не ўласнай віны, а варункоў грамадзянскіх, робяць спробы самагубства. Такіе прыпадкі бываюць вельмі часта. Вось ізноў мы даведаліся, што 25 верэсьня у бальніцы для вэнэрычных хвароб Надзея Турчанін, 27 гадоў, напілася дзеля самагубства сублімату. Павядомленай скорай мэдычнай помаччу Надзею Турчанін у цяжкім палажэньні адвязьлі да бальніцы Савіч.

× **Грамадзкіе прачкарні.** С прычыны узросту цэн на мыло, крахмал і іншые матэр'ялы для мыцьця бялізны бедные людзі ня могуць карыстаць с прыватных прачкарнёў. Вось, ёсць праект аткрыць у розных пунктах места грамадзкіе прачкарні, устанавіўшы ў іх цэны, прыступные нават для незаможных людзей.

× **Беражыце бульбу!** Пагода сёлета была кепская для бульбы,—тым больш трэба рупіцца аб тое, каб добра захаваць яе на зіму.

× **Новае распісаньне паездоў.** Ад 1 кастрычніка устанаўліваецца новае распісаньне паездоў у зносінах з Нямеччынай і ў занятых землях.

× **Местовая скорая лекарская помач** ад 18 да 24 верэсьня дадзена ў 111 прыпадку. Карэтку скорай помачы вызывалі ў 51 прыпадку.

× **За фальшывые грошы.** Нямецкая крымінальная паліція аткрыла дзьве „фабрыкі“ фальшывых грошы. Арэштавалі 6 душ.

× **Курс рубля:** офіцыяльны — 1 м. 90 ф. Пры куплі ў банках — 1 м. 96 ф.; пры прадажы — 1 м. 92 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Апавешчэньне.** У згодзі з апавешчэньнем п. Начальніка Упраўленьня, усе заказы за межамі тэрыторыі Обэр Ост на тавары, назначэные дзеля далейшай прадажы, трэба падаваць у прыналежнаго граданачальніка.

Перасылка і дастаўка заказаных тавароў у другі округ дзеля далейшай прадажы дапускаецца толькі с пазваленьня граданачальніка, у окрузі катораго пражывае асоба, якая перэсылае, перавозіць або загадывае перэвазіць тые тавары.

Для местоваго округа Вільні паменёные заявы трэба падаваць на пісьме у службовым памешчэньні Нямецкаго Граданачальніка, Домініканская 3, пакой 61.

Вільна, 22 верэсьня 1916.

Граданачальнік
**Поль.**

× **Апавешчэньне.** Фэльчары, аптэкары і памочнікі аптэкароў, каторые гатовы ў патрэбі пераехаць за межы места, прызываюцца гэтым ураз-жэ заявіцца ў канцэлярыі доктара местоваго округа, Домініканская 3.

Вільна, 24 верэсьня 1916 г.

Нямецкі Граданачальнік
**Поль.**

# З усяго Краю.

**Забарона прадажы мяса.**

ГАРОДНЯ. Страўням, мясным яткам і падобным прэдпрыемствам забаронено прадаваць мясо і вырабы з мяса у аўторкі і пятніцы. Гэта забарона да рыбы не адносіцца.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

—

**Палажэньне на фронці.**

ШТОКГОЛЬМ. Палевые аткрыткі с палудзенна-заходняго фронту апісываюць вельмі цёмнымі колерамі палажэньне тамака салдатоў. На ўсім расейскім фронці пануе адно жаданьне, каб урэшце настаў канец усім мукам.

КОЛОНІЯ. Карэспандэнт «Koeln. Ztg.» даносіць, што на адрэзку генэрала ф. Эбэна дзьве расейскіе дывізіі цьвёрда адмовіліся ісьці штурмаваць.

Палкі гвардіі утрацілі кожын тры чверці салдатоў. Ніводзін ня мае больш тысячы душ.

**Разстрэл сваіх.**

СОФІЯ. У часі бітв у Добруджы сэрбы і расейцы цэлымі гадзінамі абстрэлівалі адны адных, бо расейцы былі адзелі адзін сэрбскі атрад у боўгарскую форму, манючыся напасьці на боўгароў неўспадзеўкі. Расейскіе атрады, ня ведаючы аб гэтым, пачалі стрэляць у сэрбоў. Тые атказывалі. З абодвых бакоў ёсць страты.

**Француз камандуе расейцамі і румынамі.**

БЭРЛІН Паводлуг «Lokal Anz.», генэрал По назначэн глаўнакамандуючым расейска-румынскімі арміямі. Генэрал Іванов, каторы не хацеў працаваць разам с По, едзе на расейскі паўночны фронт.

**Заява цара.**

ЦУРЫХ. Як пішэ «Утро России», цар у пісьме, пісаным сваей рукой, паведаміў грэцкаго караля, што Расея ня хочэ, каб кароль адрокся кароны, і была-бы procі аб'яўленьня у Грэціі рэспублікі.

**Новы курс?**

ШТОКГОЛЬМ Паводлуг ведамасьцей з вельмі пэўнай крыніцы, ў найбліжэйшым часі ў Пецярбурзі ждуць поўнай зьмены ўсяе расейскай палітыкі. Штырмэр будзе назначэн паслом у Рыме. Кажуць, што ён ўжо падаў просьбу аб адстаўцы с прычыны слабаго здароўя. Спадзяюцца, што яго заменіць граф Коковцов, каторы прыбыў ужо ў Пецярбург, дзе ждуць і прыезду цара з глаўнай кватэры. Ждуць значных перамен і ў іншых міністэрствах.

**Апэтыт на Фінляндію.**

ПЕЦЯРБУРГ. «Нов. Время» жадае, каб фінляндцы былі ўзяты ў салдаты. Газэта лічыць нячутай справай, што Фінляндія, будучы часьцю Расеі, спакойна углецаецца на вайну і дзержыцца прыхільнай да немцоў нэутральнасьці. Фінляндія дагэтуль ня споўніла сваей павіннасьці; цяпер на гэта—вялікі час. „Пасьля таго, як мы прымусілі ўстаць на абарону Расеі кіргізоў, мы можэм пазваць да гэтаго і фінляндцоў. Будучыня Фінляндіі будзе залежаць ад таго, як яна адклікнецца на гэты прызыў“.

**Экономічные справы.**

ШТОКГОЛЬМ. С прычыны грозьбы голадам, лібэры дамагаюцца сазваць Думу.

Ад нячутай даражыні большая часць фабрык пааткрывала страўні для сваіх служачых.

Пецярбурскіе школы ладзяць коопэратыў дзеля таго, каб даць усім вучашчымся магчымасць пражыць.

КОПЭНГАГА. Дзеля упарадкаваньня справы здаволеньня Расеі спажыўнымі прадуктамі наладжэн цэнтральны камітэт, да катораго належаць прэдстаўнікі саюза мест, земскаго саюза, цэнтральнаго камітэту ваеннай прамышленнасьці і гандлю, саюза сельскіх гаспадароў і інш. У Пецярбурзі і Маскве аткрыты па адным глаўным бюро, каторые занімаюцца падвозам мяса, рыбы і т. п.

**Узрост доўгу Расеі.**

ПЕЦЯРБУРГ. (В.Т.Б.). У апавешчэньні расейскаго міністра фінансоў гаворыцца, што 1 (14) сьнежня 1917 г. расейскі гасударственны доўг узрасьце проці таго году на 6 мільярдоў 344 мільёны 206,084 рублі.

**Бронзовые грошы.**

КОПЭНГАГА. «Рѣчь» пішэ, што ў найбліжэйшым часе расейскіе дробные грошы, каторые цяпер ходзяць па руках, будуць заменены новымі бронзовымі грашыма. Новые манэты будуць замысьля адбіты гэтак, што цэна мэталю будзе ніжэйша за номінальную.

**Хвароба насьледніка.**

ШТОКГОЛЬМ. На апошніх «парадах» расейскі насьледнік застудзіўся і ляжыць цяпер у ложку.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Puchheim.

Беруковіч Владыслаў, Похамоўшчына.
Блажэвіч Броніслаў, Волкоўшчына.
Блажэвіч Іван, Вільня.
Боброўскі Адольф, Пальны.
Бобуль Казімір, Вільня.
Буйко Язэп, Вільня.
Хваеўскі Станіслаў, Трокі.
Данішэўскі Язэп, Корвя.
Давлідовіч Констанцін, Тургелі.
Дыдукевіч Вінцэнты, Половкіно.

## Абвесткі.

На карысць II Работніцкай Страўні ў нядзелю, 1 кастрычніка, ў канцэртнай салі пры Вароньняй вул. 5, Работніцкі Клюб ладзіць

**вокальна-драматычны вечэр**

з рознароднай праграмай у беларускай, літоўскай і польскай мовах: сьпеў хору, сьпеў соло, дэклямацыя, камэдыя «Blažek opętany» і лётэр'я. Цэны ад 15 фэн. да 1 м. 50 фэн. Пачатак а 4 гадз.

**Беларускі Клюб.**

У нядзелю, 1 кастрычніка, адбудзецца

**Беларуская Вечарынка**

паводлуг вельмі цікаўнай праграмы, ладжаная сіламі Музыкальна-Драматычнаго Кружка. Уход для членоў Клюбу і Кружка безплатны; госьці плацяць звычайную ўходную плату 50 фэн.

Пачатак а 5 гадзіне.









# ПЯТАЯ ВАЕННАЯ ПАЗЫКА.

## 5% Урадовая Пазыка Нямеччыны, не зварачываецца да 1924 г.

## $4^1/_2$% Сьведоцтвы Нямецкаго Імперскаго Скарбу.

Для пакрыцьця вызваных вайной выдаткоў суляцца для публічнай падпіскі ешчэ 5% пазычковые запісі Імперыі і $4^1/_2$% Сьведоцтвы Імперскаго Скарбу.

Пазычковые запісі ня могуць быць пададзены Імперыі да выплаты да 1 кастрычніка 1924 году. Да гэтаго тэрміну, значыць, ня могуць быць паменшэны і працэнты за іх. Аднак, валадзельцы пазычковых запісей могуць у кожным часі паступіць з імі так сама, як і с кожнымі іншымі цэннымі паперамі (прадаваць, закладываць і т. д.).

## Варункі:

**1. Мейсцы прыёму падпіскі.**

**Мейсцо падпіскі—Імперскі Банк.** Падпіска прынімаецца

**ад панядзелку 4 верэсьня да чэцьвера 5 кастрычніка 1 гадз. у дзень**

у глаўнай канторы Імперскаго Банку для цэнных папероў у Бэрліне (рахунак пачтовых чэкоў, Бэрлін, № 99) і ў-ва ўсіх аддзелах Імперскаго Банку, пры каторых ёсць касы. Аднак, падпісывацца можна і цераз:
Königliche Seehandlung (Прускі Урадовы Банк) і Preussishe Central Genossenschaftskasse ў Берліне, Königliche Hauptbank ў Нюрэнбэргу і іх аддзелы, а так-жэ цераз усе нямецкіе банкі, банкіроў і аддзелы іх, усе нямецкіе грамадзкіе зберэгацельные касы і іх саюзы, кожнае нямецкае таварыство ўзаемнаго крэдыту і
цераз кожную нямецкую почту. Аб падпісцы цераз почты гл. цыфру 7.

Бланкі для падпіскі можна атрымліваць у-ва ўсіх паменёных мейсцах. Падпісывацца можна, аднак, на пісьме і без гэтых бланкоў.

**2. Раздзел. Рост працэнтоў.**

Імперская пазыка выдаецца бумагамі па 20.000, 10.000, 5.000, 2.000, 1000, 500, 200 і 100 марак с працэнтнымі купонамі, каторые аплачываюцца 1 красавіка і 1 кастрычніка. Рост працэнтоў пачынаецца 1 кастрычніка 1917 г.

Сьведоцтвы Скарбу дзеляцца на 10 сэрый і выпускаюцца гэтак сама па 20.000, 10.000, 5.000, 2.000, 1.000, 500, 200 і 100 марак, але маюць працэнтные купоны, каторые павінны быць аплачэны 2 студня і 1 ліпня кожнаго году. Рост працэнтоў пачынаецца 1 студня 1917 г., першы працэнтны купон аплачываецца 1 ліпня 1917 г. Да якой сэрыі належыць кожнае Сьведоцтво Скарбу, гэта паказана на самым Сьведоцтве.

**Тіраж.**

Зварот грошы за Сьведоцтвы Скарбу адбываецца паводлуг лёсу па адной сэрыі ў гадах ад 1923 да 1932 году. Тіраж адбываецца у студні месяцу кожнаго году, першы раз—у студні 1923 году. Выдача грошы чароднаго пасьля тіражу 1 ліпня. Валадзельцы выйшоўшых у тіраж папероў маюць право замест выплаты грошы вымагаць $4^1/_2$% Сьведоцтвы Скарбу, тэрмін выплаты каторых наступае найраней 1 ліпня 1932 г.

**3. Падпісная цэна.**

Падпісная цэна:
за 5% Імперскую Пазыку, пры жаданьні атрымаць паперу на свае рукі .......... **98,—** М.
за 5% „ „ пры жаданьні запісаць у урадовую даўгавую книгу з выдачай паперу на 15 кастрычніка 1917 г. **97,80** М.

за $4\frac{1}{2}\%$ Сьведоцтвы Імперскаго Скарбу . . . . . . . . . . **95**,— М. за кожные 100 марак номінальных, далічаючы прыпадаючые працэнты. Гл. цыфра 6.

**4. Раздзел. Разбіўка.**

Раздзел адбудзецца магчыма скора, як закончыцца падпіска. За грошы, ўнесеные перад раздзелам, можна вымагаць папероў на ўсю сумму; наагул жэ справы раздзелу разбірае мейсцо падпіскі. Асобенные жаданьня у справе разбіўкі павінны быць запісаны ў назначэным мейсцы на пярэдняй старане падпіснога бланку. Калі асобенные жаданьня не паказаны, дык мейсца падпіскі робіць разбіўку паводлуг сваей думкі. Пазьнейшые заявы аб перамені разбіўкі ня будуць прынімацца *).

Замест папероў Імперскай Пазыкі і Сьведоцтв Скарбу на 1.000 марак і болей урад Імперскаго Банку, на жаданьне, выдае тымчасовые квіты, аб замені каторых на пастаянные паперы усё патрэбнае будзе ў сваім часі апавешчэно. Паперы менш, чым на 1 000 марак, каторые ня будуць заменяцца на тымчасовые квіты, будуць надрукованы чымскарэй і выпушчэны, бадай, у лютым месяцу чароднаго году.

**5. Аплата.**

Падпісчыкі маюць право ўнасіць усю сумму грошы, на якую падпісаліся, пачынаючы ад 30 верэсьня гэтаго году.

Яны павінны плаціць:

30% выпаўшай на іх долю суммы не пазьней, як 18 кастрычніка гэт. г.
20% „ „ „ „ „ „ „ „ 24 кастрычніка гэт. г.
25% „ „ „ „ „ „ „ „ 9 студня чароднаго г.
25% „ „ „ „ „ „ „ „ 6 лютаго „ „

Аплата часьцямі дапускаецца, аднак, толькі круглымі — ў сотках — часьцямі номінальнай суммы. Аплата часьцямі малых запісоў дапускаецца гэтак сама толькі круглымі — ў сотках — часьцямі номінальнай суммы; аднак гэткая аплата павінна ўнасіцца толькі тады, калі тэрміновых аплат -- ня менш 100.

Напрыклад: гэтак трэба плаціць грошы не пазьней, як:
для падпісчыкоў на 300 м. — 100 м. 24 лістапада, 100 м. 9 студня, 100 м. 6 лютаго.
„ „ „ 200 „ — 100 м. 24 лістапада, 100 м. 6 лютаго.
„ „ „ 100 „ — 100 м. 6 лютаго.

**Грошы трэба ўнасіць у мейсцы падпіскі.**

Безпрацэнтные Сьведоцтвы Імперскаго Скарбу, каторые знаходзяцца ў абароці, прынімаюцца пры аплаці з учотам па 5% ад дня аплаты, але не раней, як ад 30 верэсьня, да дня іх выкупу.

*) На жаданьне падпісчыка, главная кантора Банку для цэнных папероў у Бэрліне, пільнуючыся устаноўленых аб пераховываньні правіл, хавае паперы да 1 кастрычніка 1917 г. без ніякай платы і нагледае над ім. Дэпозыт не абмежывае правоў на гэтые паперы, і падпісчык у кожын момэнт і да паказанаго дня можэ свае паперы забрэць. Выдадзеные канторай для цэнных папероў дэпозытные квіты дэпозытные касы прынімаюць як заклад, нароўні с цэннымі паперамі.

**6. Працэнтные грошы.**

С прычыны таго, што нарастаньне працэнтоў для Імперскай Пазыкі пачынаецца толькі ад 1 красавіка 1917 г., а для Сьведоцтв Скарбу — ад 1 студня 1917 году, — на карысць падпісчыка ад дня аплаты, але не раней, як ад 30 верэсьня 1916 г., далічаецца:

а) 5% ад усіх аплат на Імперскую пазыку да 31 марца 1917 г.

б) $4\frac{1}{2}\%$ ад усіх аплат на Сьведоцтвы Скарбу, ўнесеные перад 30 сьнежня 1916 году. Да аплат за Сьведоцтвы скарбу пасьля 31 сьнежня падпісчык павінен даплаціць $4\frac{1}{2}\%$ ад 31 сьнежня да дня аплаты.

Напрыклад: Гэтак адлічаецца ад паказанай пад цыфрай 3 прадажнай цэны:

| | | а) да 30 верэсьня | б) да 18 кастрычніка | б) да 24 лістапада |
|---|---|---|---|---|
| I. Ўносячы на Імперскую Пазыку працэнтнымі грашмі 5 % за | | 180 дзён | 162 дні | 126 дзён |
| | = | 2,50 % | 2,25 % | 1,75 % |
| Гэтак папраўдзі трэба заплаціць толькі за | паперу | 95,50 % | 95,75 % | 96.55 % |
| | запіс у даўгавую кнігу | 95,30 % | 95,55 % | 96,05 % |

| | г) да 18 верэсьня | д) да 18 кастрычніка | е) да 24 лістапада |
|---|---|---|---|
| II. Ўносячы на Сьведоцтвы Скарбу: працэнтнымі грашмі $4\frac{1}{2}$ % | 90 дзён | 72 дні | 36 дзён |
| = | $1{,}12^5$ % | 0,90 % | 0,45 % |
| Гэтак папраўдзі трэба заплаціць толькі | $93{,}87^5$ % | 94,10 % | 94,55 % |

Для Імперскай Пазыкі сумма, каторая павінна быць заплочэна, павялічываецца за кожные 18 дзён, на якіе заплата спозьнена, на 25 фэн.; для Сьведоцтв Скарбу — за кожные 4 дні на 5 фэн. за кожные 100 марак номінальных.

**7. Падпіска на почці.**

Почты прынімаюць падпіску толькі на 5% Імперскую Пазыку. Пры гэткай падпісцы ўся сумм можэ быць унесена 30 верэсьня; яна павінна быць заплочэна найпазьней 18 кастрычніка. На сумму, ўнесеные да 30 верэсьня, налічаюцца працэнты за 180 дзён; за ўсе іншые суммы да 18 кастрычніка, нават калі яны заплочэны перад гэтым днём, плоцяцца працэнты за 162 дні (прыраўнуй цыфру 6, прыклад Іа і Іб).

Бэрлін, у жніўні 1916 г.

**Урад Імперскаго Банку**
Havenstein. v. Grimm.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.